Год II Пятніца, 20 студня 1922 г. № 13 (22)

# РАНІЦА

штодзенная грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і КАНТОРЫ:
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчыняна што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.



*Вільня, 22 Студня 1922 г.*

Міравы эканамічны крызіс застаўляе лепшых Эўрапейскіх палітыкаў шукаць выхаду з стварыўшайся эканамічнай каньюнктуры.

Лёйд-Джордж, напрыклад, прыйшоў да ідэі стварэньня новага „хаўруса народаў“, які будзе прызван да жыцьця на будучай канфэрэнцыі ў Генуі.

Па зданьню Лёйд-Джорджа новы хаўрус народаў павінен служыць фундамэнтам для ўсясьветнага міру, без якога ня можа быць адбудована Эўропа. У склад хаўруса, па думце Лёйд-Джорджа,— павінны вайсьці Злучаные Штаты, Германія і Расея. Як ведама, гэтыя дзержавы ня ўходзяць у Лігу Народаў, але Лёйд-Джордж, як відаць, лічыць што без іх ня можна чакаць добрых і пэўных рэзультатаў ад будучых, гэнуэскай канфэрэнцыі і хаўруса.

Трэба прызнаць, што ідэя Лёйд-Джорджа сама па сабе добрая, але ня можна зачыняць вочы на запраўднасьць, якая дыктуе заўсім іншае.

Перш усяго, трэба паставіць пытаньня, што добрае дасьць будучаму хаўрусу народаў вучасьце ў складзе яго Саўдэпіі?

Мы ўсе добра ведаем, што робіцца на Усходзе Эўропы.

Ведаем, што Саўдэпія гэта мейсца чалавечаскіх мук, няволі, хваробы і сьмерці. Гэта краіна бяды і нядолі, краіна абрачоная на адзічаньне і выміраньне.

Калі ў якім мейсце здарыцца пажар, дык трэба перш усяго лакалізаваць агонь, а не вынасіць галавешкі з пажарышча... Так трэба рабіць і ў жыцьці Эўропы. Саўдэпія гарыць. Пажар усё пашыраецца, пагражае суседзям...
А лепшыя Эўропэйскія палітыкі хочуць вынасіць галавешкі з расейскага пажарышча да сябе ў хату!

Хочуць зваць на канфэрэнцыю тых людзей, якія хочуць узарваць на паветра ўсю Эўропу, зьнішчыць і сьмясьці с твару зямлі, векавые дабыткі культуры, цывілізацыі і дабрабыта!..

Добры будзе хаўрус, на які з'явіцца Ленін і Троцкі з сваей агітацыей ўсясьветнай рэвалюцыі, явяцца ня для адбудовы Эўропы, а для хутчэйшага праведзеньне ў жыцьцё сваіх пякельных пляноў...
Лёйд-Джордж спадзяецца, што ў яго дастане ўменьня і таланту заставіць бальшавікоў прыняць тую праграму палітыкі, якую выпрацаваў. Ен пэўны, што бальшавікі пайдуць на кампрамісы і зьменяць сваю тактыку.

А што будзе, калі гэтыя надзеі не спраўдзяцца?

Што будзе, калі саўдэпскі пажар пайдзе далей на Заход Эўропы?

Ці ня бязпечней была бы лакалізаваць бальшавіцкі пажар, адгарадзіцца ад Саўдэпіі каменнай сьцяной, каб бальшавізм хутчэй задохся і зьнік сам сабой?

Усе гэтыя сумныя думкі застаўляюць вельмі скептычна глядзець на ўчасьце Саўдэпіі ў будучай Гэнуэскай канфэрэнцыі, не гледзячы на тое, што Лёйд-Джордж заяўляе, што запрашэньне Савецкай Расеі на канфэрэнцыю ня заключае ў сябе ні якіх варункаў, апроч тых якія датычацца да разьвіцьця свабоднага гандлю.

І няма нічога дзіўнага, што Францыя яшчэ ні дала згоды на ўчасьце Саўдэпіі ў канфэрэнцыі, а Амэрыка, хоць і неафіцыяльна, але заявіла, што ня возьме ўчасьця ў Гэнуэскай канфэрэнцыі, да таго часу, пакуль ня прыйдзе да згоды з Расеяй.

✦✦✦✦

# ТЭЛЕГРАМЫ.

МАСКВА 19. І. (А. В.) Саветы ратыфікава маскоўска—італьянскую і маскоўска—аўстрыяцкую гандлёвыя ўмовы.

МАСКВА 13. І. (А. В.) 17 студня г. г. польскі пасол Стэфанскі даведаўся Таганскую турму, дзе сядзяць польскія цывільныя і вайсковыя палонныя

РЫМ 19. І. (А. В.) Турэ кі ўрад не атрымаў запрашэньня па Генуэнскую канфэрэнцыю.

ЖЭНЕВА 19. І. (А. В.) У сэкрэтарыяце Лігі Народаў разглядалася справа аб тым, каб тымчасовае станавіска камісара Лігі Народаў ў Гданску, зьмяніць на сталае станавіска.

ЛЬВОЎ 19. І. (А. В.) „Рідны Край“ паведамляе, што ў найхутчэйшым часе да Харкава прыедзе прадстаўнік ангэльскай гандлёвай місыі, дзеля таго, каб пазнаёміцца з эканамічным становішчам Савецкай Украіны, а так сама каб навязаць гандлёвыя адносіны.

ЛЕНДАН 19. І. (А. В.) Лёнданскае кола паведамляе, што апошняя размова Лёйд-Джорджа з Пуанкарэ ў Парыжу дае надзею, што ўмова францускa-ангельская ў найхутчэйшым часе дасьць добры рэзультат.

✦✦✦✦

## Навіны у тры радкі.

Ковенская прэса паведамляе, што ў хуткім часе будзе арганізавана міністэрства па польскім справам.

З Чыты камунікат Народнай Арміі рэспублікі Далекага Усходу абвешчае, што 4 студня вайска народнай арміі перайшлі ў наступленьне па ўсяму фронту, маючы напрамак на Волачеўку.

Чырвоная армія ў паніцы адходзіць, кідаючы раненых і забітых.

„W. Str. Journ“ заведамляе колькі маюць золата дзержавы усяго сьвета.

Амэр. Злуч. Штаты ў 1913 мелі 692 міл. фунт. стэрл., а у 1920 г. 2088 міл. Англія: у 1913 170 міл., а ў 1920 г. 738 м; Францыя: ў 1913 г. 679 м; а у 1920 г. 683 м; Італія: ў 1913 г. 288 м; а у 1920 г. 204 м; Германія: у 1913 г. 279 м, а ў 1920 г. 260 м: Аўстра-Венгрыя; у 1913 г. 251 м., а ў 1920 г. 45 м. Швецыя ў 1913 г. 27 м., а ў 1920 г. 75 м; Данія ў 1913 г. 20 м., а ў 1920 г. 61 м; Галандзія у 1913 61 м., а у 1920 г. 286 м, Гіспанія у 1913 г. 92 м., а у 1920 г. 474 м; Швэцарыя у 1913 г. 33 м., а у 1920 г. 104 м.

З Гельсынгфорсу паведамляюць, што савецкая армія у Карэліі пад Келавірамі і Дольмарамі пацярпела поўнае паражэньне. Чырвонаармейцы кідаюць аружжа і амуніцыю і разбегаюцца.

Літоўскі Сойм у Коўне прыняў новы закон аб аграрнай рэформе, згодна якому духоўным і манастырам зьвертаюцца уся зямля, якая была ад іх атабрана.

Бальшавікі прадалі камалістам 4 падводных чоўна з складу Чорнаморскага флоту.

У Маскве абвешчаны курс залатога рубля—80 тысяч савецкіх рублёў.

З Самары тэлеграфіруюць у Маскву, што у вёсцы Ясьмоўка адна грамадзянка забіла і зьела сваю дачку 7 гадоў. У вёсцы Андрэёўцы жыхары зьелі цела адной кабеты. Часта крадуць мёртвых і паедаюць.

У Житоміру Ч. К. растрэляла 12 чалавек, у тым ліку 2 кабет за зносіны з атрадам Тюабюніка.

4 студня у вёсцы Сапянцы растрэляны з кулямётаў 70 грамадзян.

У Праскураўскім павеце чэка растрэляла 60 чалавек.

✦✦✦✦

## Весткі з Савецкай Беларусі.

(Ліст у рэдакцыю)

У Савецкай Белавусі чырвоная армія дэмабілізавана. Засталася толькі невялічкая частка — чатыры малодшые гады. Навучэньне войска ідзе вельмі інтэнсыўна. Главная ўвага зварочана на стральбу. Фармуюцца кулямётныя каманды.

Апроч малай лічбы, армія беларуская выглядае так, быццам яна зараз жа павінна выступіць у паход, дзеля валькі с грозным праціўнікам. Пры гэтым у беларускай арміі істнуе вельмі моцная дісцыпліна, яшчэ мацнейшая чым пры царскім рэжыму. Самая маленькая віна класіфіцыруецца як контр-рэвалюцыйная дзейнасьць і на віноўных налагаецца самая цяжкая кара — сьмерць, альбо доўгая турма пры найгоршых у ёй варунках жыцьця.

І няма нічага дзіўнага, што тэрарызаваныя беларускія жаўнеры, як аўтаматы, нясуць свае службовые абавязкі, ня думаючы аб тым, дзеля якой мэты іх трымаюць у шэрэнгах. Яны па прыказу сваіх камандзераў гатовыісьці проці сваіх братоў, гатовы ваяваць з роднай вёскай.

Так была ў Слуцкім павеце, гдзе па прыказу чырвоных камандзераў прыбыўшых з цэнтральнай Расеі, беларускія жаўнеры мучылі і ўбівалі сваіх братоў — партызанаў.

Трэба адзначыць, што Савецкая Беларусь—гэта вулкан, на якім ня можа спакою. Савецкія ўласьці, усялякія рэўкомы, ісполкомы, трыбунала et cet. ня меюць спакою ні днём ні ўночы. Дзе бы яны не знахадзіліся за імі даглядае воко паўстанцаў.

Адносіны усяго насяленьня Савецкай Улады вольмі ворожыя.

Якая ж прычына гэтай варожасьці, гэтай няпрымярымасьці?

Галоўная прычына варожых адносін да бальшавікоў гэта тая, што бальшавікі забіраюць у сяляніна палову яго працы. Ні якія вымовы, выкрэнты і сховы ня ратуюць гаспадара. Агенты савецкай уласьці ўжо добра азнаёміліся з працэдурай зьбіраньня падаткаў і пра-

